# 1

## АДНОЙЧЫ

Па дзікім небе табуны
Пагрозна неслі грываў хмары,
А круглагубыя збаны
Гайдалі плот уздоўж хібары.

У кругаверці над зямлёй,
У голля хрусткім развароце
Бяды пабачыўся залом,
І кроў, як соль, спяклася ў роце.

Шыпела сонца ў абцугах –
Гуло кавадла перунова.
Нам чорта ў пекле зацугляць,
Каб пекла з раем параўноўваў.

Тым часам, ведацьмеш сабе
Сярод драпежнікаў і гвалту
Ты быў шчаслівым у журбе,
Няшчасным стаць, тым больш, нявaрта.

Сабе зазнач, адвечны брат:
Не знойдзе свет  у свеце згубу.
І будзеш моцы набіраць,
Ляжаць, расхрыстаны, пад дубам…

## МУЗЫКА ВОСЕНІ

Пад  сон сланечнікаў рабых,
Што стражай сталі на катурны,
З барвовых кропель арабін
Складала восень партытуру.

Кларнеты з чорнага трысця
Да губ паднеслі прагна ветры –
Павeтру грудзі гук працяў,
І смуткам сталася павeтра.

А гукі ўдалеч паплылі
І ніца слаліся пад дымам,

Нібы  падрэзаны палын,
Што голаў болей не падыме.

Пустым застаўся паравоз.
І снег апаў па поўнай мерцы.
А  гукам недзе выпаў лёс
У белай замеці памерці.

А потым скажа прастарэк,
Замерзлы, чуў ён у адчаі:
З-пад  лёду  закаваных рэк
Жывая музыка гучала.

**БРАМА ЗІМЫ**

Раскручвае шпулю шашы
Няўтомна-задыханы вецер.
Няўжо і з паднебных вышынь
Нам  зорка спагадна засвеціць.

Няўжо ў пракаветных краях
Пры рэчцы таемнай і былцы
Пазначана нам акрыяць
І шчасця застацца тубыльцам.

Давай  каля брамы зімы
На  момант не ў скрусе прыстанем
І ўспомнім пра тое, што мы
Згубілі на свеце растайным.

І разам няўзнак памаўчым,
Прыкмецім ільдзінку на доле.
Ці зноўку ад нас паімчыць
Такая жаданая доля?

Нібыта пад знакам віны,
Кранеш ты настыла галіну,
І тая ў адказ зазвініць,
А  звонам заўсёды гаіла.

І раптам заўважым – не ў сне –
На яве, такой безваротнай,
На плечы нам падае снег.
Спакойна.
Нячутна.
Пяшчотна.

## ЛЁН

Збялеў,як мармур,лён
На сцелішчы няўрокам:
З забранага ў палон
Хацелі віць вяроўкі.

Але ж было і так,
Калі ён, разарваны,
У скрыгаце атак
Сабой загортваў раны.

Ён вокам сініх дзён
Глядзеў на свет астылы,
І пад ягоны звон
Звінелі небасхілы.

Яму цяпер якраз
Нялёгка ў тлуме стольным
Раскручваць напаказ
Ручнік або настольнік.

Ды сіл не пазычаць –
Паўстаць урост грунтоўна.
Не ведаў пра адчай
І нас тым загартоўваў.

І з небам парадніў,
Жывы ў бялюткай столцы.
І вечна перад ім –
Раса.
Радзіма.
Сонца.

## ГАЛАСНІКІ КАЛОЖЫ

Чые галасы
мне пачуліся
раптам
у раз‘ятраным шуме?
Што за музыка
зашугала
за сцяною імжы?
І які напаўзабыты
напеў
данёсся з узвышша?

Прачнуліся і гудуць
галаснікі
Каложы.

## ДЭФІЦЫТ БЕНЗІНУ

Не хапае сінечы
на небе,
заштукаваным аблогай.
Не падвезлі ў тэрмін
цыстэрну
з водарам канюшыны.
Забыліся
своечасова набыць
далягляд,
і яго нідзе не відно.
Не знайсці
днём з агнём
крыніцу з вадой
жураўлінай.
І ўвогуле, куды
зашылася служба дастаўкі
ўсяго
непасрэдна ў ложак?
Ды ўсё гэта выглядае
драбязой
падчас,
калі не хапае
бензіну.

## ПЕРАПІС ПТУШАК

У гэтай бясконцай справе
прымаюць
дзейсны ўдзел:
дрэвы
спагадлівым пошумам,
хвалі
лагодным гайданнем,
людзі
громам з жалезных руляў
замест пяра.
На пытанне – “родная мова”
птушкі адказваюць:
дрэвам –
драздова, ці сойчына,

хвалям –
гукаюць па-чаечы,
а чалавеку –
адказаць не могуць.

## СЛАВАЦКІЯ ЭСКІЗЫ

### ГАДАВІНА ПАЎСТАННЯ

Зноўку чуецца посвіст
Партызанскаму стану.
Нібы вечная позва,
Гадавіна паўстання.

І выносяцца коні
З закілзанае стайні...
Той пагляд заваконны.
Гадавіна паўстання.

Пралічыліся нацы.
Іжэ з імі таксама.
Хоча з воляй абняцца
Гадавіна паўстання.

Неспатольнай гаркоты
Пацалунак астатні.
Чуеш,
Дукла грукоча!
Гадавіна паўстання.

Час застыне знянацку
Там,
дзе ў бронзе пастава.
Хоча з болем спазнацца
Гадавіна паўстання.

Над зямлёй зааранай
Зоры сталі пастамі.
Як барвовая рана,
Гадавіна паўстання.

Банска-Быстрыцы сховы.
Шлях агніста-растайны.
Узняліся галовы.
Гадавіна паўстання.

## РАНАК
## У БРАЦІСЛАВЕ

Смугу скалыхнуў браціслаўскі трамвай.
І рэха напрамак прастала.
А Град даўніну на каленях трымаў,
Пакуль яна спаць перастала.

На пліты ступала спакою ступа.
Ступала на ганак славачка.
І ліст пад расою цяжкою апаў,
Каб вечарам зноў мілавацца.

Жаданне сабе не супроць загадаць,
А гэта замова двайная,
Бярыся ад рання на промнях гайдаць
Зялёнае ложа Дуная.

Каменныя схілы прыгрэлі лазу.
Няскораны корань славянскі
Не здасца на літасць крывому лязу,
Бо жыць палічыў абавязкам.

Душа адлятала прытомна за высь,
Нібыта пры радасці сойка.
На Татрах настольнік Еўропы завіс,
Завісла на Дэвіне сонца.

І прагнулі разам жыцця прад усім
Пагляд,
            перазоў,
                            аблачына.
А свет неабдымны ляцеў і прасіў,
Каб вечнасць віткі не лічыла.

## ВЁСКА

Дзедзіна* славацкая
Чырванню па белым
Воблаку назвацца
На гару пабегла.

Вышыню пакратала –
Вольніцы даніну.
Рэха незакратнае
Падала ў даліну.

Пад густымі лапамі
Вечнакроных елак
Сэрца ў грудзі ляпнула
Як само хацела.

Не ячменным коласам,
Не балючай дзідай,
Край у душу колецца
Чарнавокім дзівам.

“Я такая чорная,
Як чарна чарнічка...”
Над вачэй пячорамі
Шалясцела знічка.

Ртуць ракі запеніцца,
Рэчышчу не рада,
Каб затым упэўнена
Даць застою рады.

Дзедзіна славацкая
Падымае погар, **
У далоні пляскае
І не гнявіць Бога.

---

* Вёска - /славац./
**Куфаль - /славац./.

## НЯЎРОКАМ

Не цешыць уласны рэкорд,
Што пыхаю поўніў.
Надзея з пабітай рукой,
Як зрынуты помнік.

На друзе былога стаім.
Дыміцца акурак.
І загваздка нават не ў тым,
Ці знойдзем прытулак.

Вунь ястраб у лёце відзён,
Пакутнік абшараў.
Шкада разнасцежаных дзён,
Гары яно гарам.

У вусцішнай хаце цяпер
Развазе б спыніцца.
Трымаецца логава звер.
Дзіця за спадніцу.

## ЭПОХА

А з бляскам сабе макіяж
Наводзіла пані эпоха.
Кідаліся сэрцы ў Ла-Манш,
Клінок не залежваўся ў похвах.

Калі ж са здрабнелай шчакі
Сплылі неўзабаве румяны,
Ніхто да старэчай рукі
Не кінуўся ў міг безымянны.

Чапляецца думка адна,
Праверыцца, пэўна, па часе:
Не з тога выпадку, аднак,
І мор на герояў пачаўся?

## ГОЛАС ПОМНІКА

Ад травы праз усе небасхілы
Я да сонца зямлю прыцяг.
Стуль, дзе люду, бы дроў набілі,
Мне знайшоўся такі працяг.

## ПАЗІЦЫЯ

Не чапляйся за крысо былога,
Не цягні адтуль адчаю ніць,
І сумлення цёмная бярлога,
Абсмактаўшы лапу, будзе жыць.

І навошта лезці праз галовы,
Як здаўна казалі, на ражон?
Ты ж не быў халодным і галодным,
Не хадзіў, балесны, пад ружжом.

І без дайпрычыны марна пяцца
Адганяць ад роднага свіней:

У цябе ж не храбусцелі пальцы
І тым больш, не абсвістаў свінец.

І ці варта ўспамінаць пра гены
І трасці традыцый футарал?
Не на тое зваў з акцэнтам “геній”,
Каб слабінцы кожнай патураць.

І найлепей пачакаць.А раптам
Засапе ізноў былая раць,
І таго, хто пёрся на арапа,
Не паспеюць костак пазбіраць.

**ЗІМОВАЯ САГА
ПРА СЯБРА**

Я сябра сустрэў у музеі.
Прымружаны вейкі ледзь-ледзь…
Няма ў мяне болей надзеі
Жывым яго недзе сустрэць.

…Каб потым імчаць электрычкай…
…Затым пасядзець на траве…
…Пасля…
Ды ніхто не пакліча…
А побач завея раве.

Мне вытрываць зноў давядзецца,
Сябе ад жальбы адарваць.
Так з лёду ірвецца вядзерца,
Ці лёд ад сівога брыва.

Ізноў маладзечанскім бокам
Кіруецца час каляды.
Марозік намерыўся бойкі
Ізноў наступіць на сляды.

Прастуджаным горлам каўтае
Вятрыстую далеч гудок.
Спяшыць напраскі – не кутамі –
З‘інела-барвовы радок.

“А у нас ля Маладэчна,
Адкуль буду сам я родам,

Любяць розныя сустрэчы,
Нечаканыя прыходы”.

Дык як жа паверыць у радасць,
Хоць хочацца  горыч спаліць?
У снезе забыта на градах
Замерзлы сланечнік стаіць.

## ВЯРТАННЕ ВЕРША
## “ МЫЕ ВОКНЫ ЖЭНЯ ЯНІШЧЫЦ ”

Мые вокны Жэня Янішчыц.
/ Стуль завею здалёк відно./
У высокай раме, як нішы,
 Распраменьваецца  акно.

Ад  Палесся і да Нямігі
Павуцінка плыве смугой.
Тут усходзіла “ Слова…” – кніга ,
Ад якое не ўцёк мангол.

І бяжыць па шырокай шыбе
Каляровай  наміткі шляк.
Самалёцік у небе шые
Па блакітнаму белы шлях.

Горад зморана паспяшае.
Нервы круціць у скрутак кран.
Чысціню б тут насіць каўшамі,
А яе не хапае – край.

Парк акрасу ахвярна нішчыць
І завершыць, аднак, на днях.
Мые вокны Жэня Янішчыц:
Ручкі стомленыя – не падняць…

## КАПІТАН

*Памяці Усевалада Азарава*

У адэскім спякотным порце,
На працятых вятрах Нявы –
Вораг старчых, як свет, прапорцый,
Сябра юных заўжды навін.

І яму аніяк не ўседзець,
Дзе курыцца спакою дым.
Побач з гэтым – у форме – дзедам
Некаторыя з нас – дзяды.

І нашто капітану лаўры?
Капітан і цяпер жадзён
Пастаяць каля Неўскай лаўры,
Скуль адэскі партал відзён.

Капітан і цяпер на флоце,
Дзе пасецца рабы пасат.
Не грашмі капітану плоцяць,
А магчымасцю напісаць.

І нікуды цяпер не дзецца:
Сэрца з мора ірве прабой –
І ад Балтыкі да Адэсы
Бесказырку нясе прыбой.

**ДУБОВАЯ БАЛАДА**

Непадуладны разьбярам,
Астатні дуб на прыгуменні
Маланак столькі назбіраў,
Як крушня белага камення.

І часу хіжая піла,
Абух у злосці перуновай
Жадалі, каб і ён палаў,
Сябе разбэрсаўшы на дровы.

Але ж у мудрасці правы
Вышэй абухавага права,
І для дурное галавы
Тым  часам знойдзецца направа.

Цішэлі сокі неўпрыкмет
І траваў абмялелі хвалі.
Пад дубам ссох нязломны дзед,
І дзеда ўнукі пахавалі.

Цяпер распуста на дварэ:
У розуму скруціла бэлькі.
І хто ад зелля азвярэў,
Як бачыш, гваздане бутэлькай.

Былое соймішча абраз
Забыў і дуб у новым здзеку.
Здаецца, вобзем шапкай бразь:
Куды вы коціцеся, дзеці?

І толькі поўнач у расе
Напомніць, што не ўсё ж у брудзе,
І разварушыць пакрысе
Стагоддзя высахлыя грудзі.

## БАЛАДА РУЧАЯ

А як ён весела крычаў,
Ляцелі пырскаў гроны,
Маёва ўквечаны ручай,
Што высах, як гідронім.

На белым дне, бы палатне,
Залеглі слёзы чорна.
Паглянь – адразу калатне,
Як подыхам з пячоры.

Закасцянелая вярба
Глытае ў пыле смагу,
Нібы прасолены гарбар
Каля пустой біклагі.

Ляціць луска з календара.
Жыве балесны покі
І здзек не можа даравацъ
Аблуднае эпохі.

І з каламуці злосных дзён
Чарпаць ваду ці станеш?
А быў ручай той не жадзён
Вандроўніку і стайні.

Прыстану моўчкі. Сам сябе
Спытаю асцярожна:
“А як цяпер усё ж паспець
Назад, у час мурожны?”

Ды лепей, браце, не пытай,
Брыдзі, як мніх, асфальтам.
Ляжыць ручво, нібы пятля,
Павешанага гвалтам.

## ВЕТРАВАЯ БАЛАДА

Ходу вятры даюць
З выпетраных узлобкаў.
Не вечна ж у бубны б‘юць,
Бывае, што біць нялоўка.

І ветравая грамада
Суцішыцца не ў гуморы:
Садому свайго шкада
І з ім жа шкада Гаморы.

Ды раптам ізноў свяжак
Так калатне па раме,
Што прыйдзецца зноў зважаць,
Якой адбываецца драме?

Наперадзе – роў не роў –
Ламіся знаскоку ў дзверы,
Прыдатны яны для дроў,
Вядома, сякера ў звера.

Госпадзі, упасі:
Зверху відней заўсёды,
Як нейкі там чмут, ці псіх
Караскаюцца на сёдлы.

Шалее вятроў гайня,
Вынюхвае шлях прынадна.
Каго і калі ганяць –
Задумваецца не надта!

## БАЛАДА БЕРШТАЎСКАЙ КАПЭЛЫ

Спявала капэла
Крынічна,
крыштальна
і ясна.
І роўных не мела
У поўдзень – на полі,
у поўнач – ля прасніц.
Ды гэтага мала:
Ля зорак капэла спявала!
Гучала капэла…
Ды нечаму сціхла заўчасна,

Ці помач тады не паспела,
Ці лёс у жанчын пакручасты?
І раптам капэлы не стала,
І чутка пра спеў не спявала.
А песень вясковая веліч
І зёлкі, і вочы расіла…
Азвіся, Тамара Ількевіч,
І дзе Вы, старэнькі Русілка?
Сумуем мы вельмі,
Мы вас папрасілі б…
Каб раптам рукою сухенькай,
Як колісь, высока ўзмахнулі!
Спявачкі ў жалобных сукенках…
І вы не ўзмахнулі – заснулі…

І шлях той, што Вамі абраны:
Такія шляхі абарваны…
Дык дзе ж ты, капэла?
Хай радасцю сум твой засвеціць,
Дзе бэзам прастора кіпела.
Ды падаюць словы на вецер…
Маўчанне стаіць акапэльна.
Смяртэльна.

## СНЕЖАНЬСКАЯ БАЛАДА

Завеі – шыр займаць,
З гаямі йсці на згоду.
Засведчыла зіма,
Што снежань – ночка году.

Ад снегавых палос,
Як пісягоў маланкі,
Падобна ў белы плёс
Загорнута палянка.

У прыцемку – абшар.
А свеціць таямніча,
Нібы дзявочы твар,
Адчайны воблік znічкі.

І лёс яе спазнаць
Не здольны той, хто падкі
З імпэтам адказаць,
Што зоры – Бога спадкі.

Віхурным следам, бач,
Сплыве задумы пошта.
Дзесь лета дзьме ў гарлач –
А снежань множыць пошум.

І нам ужо карціць
Завею ўшчэнт разгойдаць,
Бо як ты не круці,
А снежань – ночка году.

**ЯНКА БРЫЛЬ**
**У ЯКУШОЎЦЫ**

На раскопе ўваскрэс археолаг,
Акулярамі ў сонцы ззяў.
Ад пяску не спяшаўся холад –
Сведка ўсіх далакопных з‘яў.

Уздымаліся на паверхню
Знакі побыту і быцця.
Стуль высока сягнула вернасць,
Не сягае куды бацян.

І пячатка з былой абсады
Пазбірала цяпло ад рук,
А жаўрук хвалявання падаў
Аж на віленскі сцюжны брук.

Мастаўлянскае  сцежкі ручайка
Вытыкалася ў той сувой,
Што з крывёю мог заручацца,
Сцягам збыцца над галавой.

Якушоўскі прасцяг узгор‘і
На зялёных вятрах гайдаў.
Помства тут вырастала з гора,
І з касою на шлях – гайда.

Дзесь пад самым пушчанскім сэрцам
Касінерскі ланцуг застыг.
Наш пачатак ад тое смерці,
Думкі нашы паходзяць з тых.

…Launched

З ціхай мудрасцю Янка Брыль.

## КУШЛЯНЫ. ВОСЕНЬ

Кушляны.Восень.Жарабя.
Мацея Бурачка сядзіба.
Тут час ствалы не парубаў –
Навекі пасадзілі.

І камянёў, і каміноў
Стаяць жывыя цені,
Стаяць, як праўда над маной,
Або святло над цемрай.

…Дарога несла вараных,
А тыя – адваката:
Уцёк з паўстанцкай стараны,
Скрываўлены ад катаў.

Не паратунку ён шукаў –
Адчаем поўніў вока.
Маўляў, хто сеў на мужыка –
Не ўздымецца высока.

Штось фурман сціх на перадку
І гаспадар фальварка…
Не будзе прыязні радку? –
Ды толькі ў недавяркаў!

Яснавяльможныя бурчаць:
Ад зерня прэч палову!
Абсяг Мацея Бурачка.
Сусвет змаганскі слова.

## У ШУМНЫМ ЛЕСЕ

Зіма збірае мліва.
Ляціць вятроў гайня.
І трубіць бор шчымліва,
Як кракаўскі “гейнал”.

Па просецы ступаем
З табой сляды ў сляды,
Вось гэтак за слупамі
Імкнуцца правады.

Зноў з выскакам завея
Хвастом крутым крутне.
Сняжынкі сплюшчаць веі –
Іх плойма на сасне.

Хутчэй пад шаты станьма,
Пакуль шалее свет,
Нібы ў пячорным стане
Назад сто тысяч лет.

**НА ДАРОЗЕ**

Падаць грушыне нема,
Дзе трава палявая,
Дзе глыбокае неба
Ды сінечай палае.

З-пад страхі далягляду
Шчабятанне ляцела.
Мне давесці да ладу
Душу з целам карцела.

І зусім не ў трывозе
Колам сонца іграла,
І ляжала на возе
Грушы дужае рала.

Лог казюркамі цінькаў
Сам сабе і даўпаду,
Бы каменьчык па цынку,
Як даводзіцца падаць

Паабапал няспешна
Разбрыліся пагоркі.
Лёс адмерваць ім пешшу,
Як і мне, не агоркла.

Толькі нечаму скрушна,
Толькі нешта няміла.
Пры дарозе – не крушня,
Пры дарозе – магіла.

## ВАНДРОЎКА Ў ВАРНЯНЫ

Цуд,не больш і не менш,пабачыць
/ Час датла іх не ўсе расцёр /
Павёў мяне Рычард Бялячыц
У Варнянскі касцёл.

Месц тамтэйшых і сын, і знаўца,
Не дазволу ў Бога прасіў –
Прапаноўваў высока ўзняцца,
Аж наколькі хапіла б сіл.

Дзіва ў зрэнках, напэўна, стыла,
І задумваўся не на зло:
А якім памножаны стылем
Думкі дойліда на мазоль?

Лахманы крыжавога веку
Ураган растрос на рагах.
Пад панурым, як немач, векам
Не пра тое маўчаў арган?

Дык вядома, у дзікай драме
Не аднойчы Хрыстос канаў.
Паднябессе стаяла ў храме,
Як падвешаны акіян.

Не расколаты доўбняй,працай,
Галасы з навакольных хат
Аціхалі ў высокім спраце
І знаходзілі душы спрат.

Тут пачуццям святла хапала,
Уздымаўся паволі лёс.
І за грудзі жальба хапала –
Хваля так абдымае плёс.

…Адплывала ў смугу званіца,
І гаёў зелянеў экран.
Немагчыма з дарогі збіцца,
Як вяртаешся да Варнян.

## МАЛЮНАК ПРЫЕЗДУ

Раматусам скручаны вяз

На слуп абапёрся аберуч.
Бялізну так круцяць якраз,
Пасля, калі пранік адперыў.

Падворак.Калодзеж.Павець.
Дзядоўнік паказвае пыху.
…А мог бы сюды не паспець
Раней, чым убілася ліха.

**ПЧОЛЫ АПАНАСА ЦЫХУНА**

А пчолы знаюць вуллі
Свае. Сказаў прарок.
Ім не трымацца вуліц
Ні ўздоўж, ні ўпапярок.

Няма пчале дыстанцый,
А ёсць дзівосны код:
Да родных сцен дастацца
Праз бездань перашкод.

Ёй крыж нялёгкі несці,
На лёс не наракаць.
Такім жа чынам дзесьці
Нясе сябе рака.

У кветках валавокіх,
З вішнёвай вартай рал
Пазначана валока –
Пчаліны арэал.

Браню з тугога воску
Не возьме хіжа восць,
Бо ёсць у вуллі войска
І маршал войска ёсць!

Калі ў пашане праца,
Гудзе кралаты род,
І можна не спрачацца,
Што ў нас – наадварот.

І чуецца за гулам
Дакладных спраў расклад,
А плён іх падагуліць
Святочны стол каляд.

…Духмяны надвячорак.

І Апанас Цыхун
У цяжкіх гронах пчолаў
Стаіць, нібы вястун.

## ДЗЯКУЙ САКРАТУ ЯНОВІЧУ ЗА ДОЖДЖ

Разам з чэрвенем акурат
Быў я на стрэчу падкі.
Частаваў Яновіч Сакрат
Югаслаўскаю згадкай.

Капала сонца з крон –
Збан бы сюды парожні.
Недзе піпікнуў гром –
Выліты спадарожнік.

З ласкі настырных хмар
Біла вада ў рыштоку.
Схавала дзяўчына твар
На грудзях Беластока.

Казань нашто казаць,
Скрэбці за мудрым вухам?
Змые дажджоў касяк
Звады ва ўсіх завулках.

Сярэбранаму ездаку –
Дажджу
Праз усе загоны
Ехаць, ажно пакуль
Смагу іх не загоіць.

…Зноўку мне памяць шле
Словы з лацінскіх літар:
Сталі яны на шкле,
Леглі на мокрых плітах.

Раімся на пуцях,
Дзе адпачыць засядзем.
– Што ў вас для піцця?
– Дождж у бліжэйшым садзе.

– Што ў вас апасля:
Стоміцца ж дождж заўзяты?
– Потым можам паслаць
За яго памагатым.

– Што ў вас за намер
На наступным стагоддзі?
– Дождж заліць за каўнер
Таму,
хто з пытаннем ходзіць!

**СТАРЫЦА**

Нешта сталі старыцца
Крона і крыніца.
Зарастае старыца –
Зеллем караніцца.

Нешта нам нявесела
Ля сваіх ваколіц.
Галаву павесіла
Вясялосць на волле.

Нешта нездаровіцца.
На душы – знямога.
Сэрца, бы ў сукровіцы.
Браце, не замнога?

Да вяршыняў велічы
Не дайсці – задуха.
Ходзім, голаў квелячы
Тым жа боскім духам.

Ды, напэўна,здарыцца
Нешта не з раскладу?
Забруіцца старыца,
Заспявае складна.

З светам повязь крэўная,
Ён у нас глядзіцца.
Загудзе па крэменю
Рэчка Маладзіца.

**РЭТРАСПЕКЦЫЯ**

*Мар‘яну Дуксу*

Пераставім вешкі.
Вылічым гады.
Стынуць галавешкі,

Ды такой бяды.

Стомлены аловак.
Выгнуты абзац.
Буйныя галовы
Проста не абцяць.

Конна мы ляцелі,
Лезлі праз брады,
Уварваць хацелі
Божай барады.

Нам казалі ў лёце:
“Перш за ўсё – загад!
Добрыя вы хлопцы,
Ды глядзі назад!”

Ай, не будзем крыўды,
Ведама,лічыць,
Азірацца крыва,
Спадцішка лаўчыць.

Вось паставім кропку
Пад юначы свіст.
Божая кароўка,
Сядзь на чысты ліст.

Не жыццё – пацешка.
Гора – не бяда.
Уцякае сцежка –
З кошыка вада.

## ВЕЧАРОВАЕ ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОСЦІ

Катушок я займеў:
Во – прастора!
Ты заходзь да мяне,
Пагаворым.

Фортку вецер прыб‘е,
Як цвікамі.
Ад халодных праблем
Уцякайма.

Будзе кот каля ног
Ацірацца.

Нешта змеціў даўно
На цыраце.

Стане чайнік дрыжаць
З перапуду,
На якога ражна,
Бы падсудны.

Думка вызначыць лоб:
Можа, горкай?
І прыправай было б
Для гаворкі.

І давай апяваць,
Як па масле.
Спавядаць, ушчуваць –
Хай ты б згасла!

Не забыцца б гучней –
Пра парадкі.
Ды з урада пачнём –
Дайце рады!

Скуль бярэцца імпэт
Для філіпік?
І да шыбы ўвесь свет
Аж прыліпне.

Дым плыве валакном
Абарваным.
Пагляджу за вакно:
Пэўна, ранак.

**СПРОБА ІЛЮЗІЙ**
**НА РАЦЭ**

Ля ног стаіць вада.
Падобны да камеляў,
Аблокі там, відаць,
На дне, закамянелі.

Таемны шэпт трысця,
Зязюлі лік адчайны
То сціхнуць, то трымцяць
І нешта азначаюць.

Прарочаць скарб знайсці

У зла дрымучым схове,
Праз твань зрабіць насціл
І быць напагатове.

Такое той бяды,
Ды што губляць, урэшце?
Да боскай барады
Адзіны шлях у грэшных.

Тым болей, час наспеў:
Трывалей жыць са скарбам.
Са скарбам можна пець,
Са скарбам цёпла скабам.

Сябрам былым:цю-цю!
/ Прыйшлі на дармавіну./
Лупі сабе куццю,
Куцця смачней пры вінах!

А зазвініць дукат,
Дык зайздрасць рот раззявіць.
/ Не кожны адвакат
Абвергне сутнасць з‘явы./

...Тым часам даўся знак:
Вось тут яна, нірвана,
І там жаданы гляк
На дне замураваны.

Тут вецер / пры ламах / –
Паветра коўць глыбока –
І з крэктам разламаў
Каменныя аблокі.

**АКВАРЭЛЬ**

Заброснела сажалка.Млын.
Пакінуты вербам закутак.
Аблокаў празрыстая плынь,
Да вербаў яны не прыкуты.

На даху пакраплены мох.
Стрыжы не стамляюцца сноўдаць.
...Дэталяў разгледзець не змог.
Вось так у асноўным.

## ВІТРАЖ

Шкляны палац,
Як куфар скарбаў,
Пачаў палаць
У сотні фарбаў.

Дзіцячы сад,
Заўжды вясёлы,
Успыхнуў сам
У сто вясёлак.

І нават дом,
Нутром казённы,
/ Бы грымнуў гром /
А стаў стазвонам.

Адна турма
У ценю змрочным.
Яе дарма
Злы дух сурочыў.

Мастак складаў
З імпэтам шклінкі
І сам глытаў
Шчасліва слінку.

Тады, як след,
Дайшоў да толку:
Скляпаны свет
З асклёпкаў толькі

## НА ГОЛЫМ ПОЛІ

Згарэў ушчэнт
Стары бульбоўнік.
А траваў шчэць,
Як скура з бойні.

За блізкі свет
За дымам зніклі
І позні квет,
І ліст, як выклік.

За дальні лес

Спаўзла дарога,
І ён ледзь-ледзь
Не торкнуў рогам.

Залез абшар
У плашч здубелы.
Счарнелы твар,
А стане белым.

Ні гуку. Стынь.
Пакоры колер
І разам з тым
Няма пакоры.

Дажджу найперш
Ліхая доля:
Адзін, як перст,
На голым полі.

## ВЯСНА. СУСТРЭЧА З ДРЭВАМІ

Зноў залечвае груша
Лёсу голае голле:
Так натруджаны грузчык
Рукі ў кіпені гоіць.

Учарнелай чарэшні
Незайздросная доля:
Ці арол, а ці рэшка,
Як марозік да долу?

І на споведзь да яблынь
Не спяшаюцца пчолы,
Бо зялёнае слаба
Разлілося па чорным.

Нечакана распаліць
Пнём альховым дзядзінец,
І рукою бяспалай
Вербы сонца падымуць.

Ліст упаў на галіну,
Ухапіўся абеcurуч,
Як за полымя гліна,
Ці радок за паперу.

На гняздоўі пакоўным
Трубіць бусел пра стрэчу.
Паміраць ад спакою,
Уваскрэснуць ад стрэсу.

**РАЗЬБЯР**

Рука па ласцы разьбяра
Крушыне грудзі вызваляла.
У ста гаях ён выбіраў,
А вось такое бракавала.

Прыліпла пасма наўскасы,
Знямелі верадныя пальцы,
Нібыта сена накасіў
І стаў у лета пастаяльцам.

Ён адхіляўся незнарок
І закрываў наглуха вочы,
І засынаў у ім прарок,
І прачынаўся голад воўчы.

Ізноў хапаўся за разец.
І аплываў начы агарак.
А ранак пачынаў рудзець
І націскаў, руды, на карак.

А майстра пацеры шаптаў,
І дрэва шэптам паўтарала.
І гэта значыла накшталт:
Краса нікога не карала.

І каб не плакаць, а пяяць,
Пакутай долю аплаціла.
І ёй на сонейку стаяць,
А не ў цянётах павуціны.

**СТОМА МЕТАЛУ**

З іржой канат
З напругі стогне.
Заве сканаць
Металу стома.

Грыміць трамвай
За бліжнім домам.
Заве трываць
Металу стома.

Блішчыць крыло,
Дзе лёт прасторны.
Не стань крывёй,
Металу стома.

Астыў метал,
Каб хоць сутоннем
Расу смактаць...
Металу стома.

Зямлю ён змог
Падняць на грудзі.
Ратуй жа , Бог,
Ад тых нагрузак.

## СЯМЕЙНЫ АЛЬБОМ

*Іосіфу Багіне*

Прыйшоў дамоў,
Гартай сумленна,
Як стос тамоў,
Альбом сямейны.

У ім – спакой.
Над ім – віхуры.
Усмех акон
І плач хаўтурны.

А там вось дзед,
Пры ім – кульбака.
А бабка дзе?
Няма ўжо бабкі...

А тут – дзіця,
Яно з калыскі.
Кату няўцям,
Што чорны пыскам.

А вось – жаніх,
Пагонаў лычкі.
А колькі іх,
Пасля палічым.

А побач з ім –
На ветры вэлюм,
Як подых зім,
Бо сцюжна вельмі.

Нарэшце свой
Знайшоў адбітак.
Бярозы ствол
І год забыты.

Такой бяды,
Калі не змеціў...
Сплыло вады,
А з ёй і смецця.

А лёсаў лес
Стаіць купчаста.
І гэта спрэс –
Народу частка.

**НАТУРА**

Шлях ідзе напрасцяк,
Як бульдозер.
Па касцях у трысця
Без адозвы.

Усплываюць з балот
Бляшкі раскі.
Тут расліне было
Жыць па-райску.

На кароткай назе
З жураўлямі.
Не відно анідзе...
Жыравалі.

Тут бы кінуцца ніц,
Як паломнік.
Не з адных бліскавіц
Вочы ломіць.

Ды чаго ўжо цяпер?
Годзе енчыць.
Бо даўно ўжо, як звер,
Душу змэнчыў.

## ПАІЛІ КОНЕЙ...

Рака.Каменне.
Вады аскома.
Сярод духмені
Паілі коней.

Ці не апошніх
З таго прызыву,
Які ад пожні
Звялі за грыву.

Ці не астатніх
У тым калене,
Што мела стацца
Дузе збавеннем.

Шалела заедзь
На дне спякоты.
Каня кілзаюць,
А воды коцяць.

Рака на шалях
Гайдала смагу,
Разліць спяшала
Шырока магній.

Табун ахвочы
Не трэба перці.
У пырсках вочы,
У пырсках персі.

...Не перад сконам,
А ўсё ж не спіцца.
Ой, дайце коням
Усмак напіцца.

## ДЗЬМУХАВЕЦ НА ВЯТРАХ

Зноў узняцца карціць
Па-над светам
І шляхі скараціць
Цераз лета.

Дзьмухаўцу на вятрах
Лёгка падаць.
А назад павяртаць –
Не выпадак.

А з блакітам сплысці
Так спакусна.
Як даніну плаціць –
Вусны ў вусны.

І ляціць дзьмухавец,
Не заверне.
Дзе ён, шляху канец?
У завеі.

**ПЕРШЫ СНЕГ
У ГОРАДЗЕ**

Завіснуў снег
Над тратуарам.
Святлелі ўсе –
Відно па тварах.

А снег не стаў
З кіёскам побач,
А шлях прастаў
У шэры побыт.

Гарнуўся сам
Да дрэў і вокан,
Схаваўся там
Ад злога вока.

І стала так
Тады празрыста,
Нібы мастак
Палотны хрысціць.

А снег панёс
Сябе пад дахі.
Такі ўжо лёс:
З зямлі падацца.

**СНЕГ НА ВЕЖЫ**

У ваколіцы снег

І на вежы.
Не знянацку забег –
Нам належыць.

У яго пра запас
Завірухі.
Ён нібыта заспаў –
І ні руху.

Нам яго палюбіць,
Як у храме.
Не азначыць ілбы
Гузакамі.

Нам яго шанаваць,
Прычашчацца,
Кругам каб галава,
Як пры шчасці.

Ручнікі ён вакол
Паразвешваў.
Як анёлак вякоў,
Снег на вежы.

**ПЕЧКА**

А выстыла хата нашчэнт.
Заносім звінючыя дровы.
Глядзі, як падскочыў умэнт
Агеньчык, бы каліва,дробны.

І будзем ля печкі сядзець,
Складаць пры агніску надзеі.
Запашаны ў шлях селядзец
Нагода пароўну падзеліць.

Разважліва зноўку маўчым.
Шырока агонь палыхае.
Яму не дазнацца прычын,
Чаму ўсё ж часіна ліхая.

На сценах у рамках падрад
Адбіткі былога настрою.
Не выгукне певень:ура –
Няма яму месца на троне.

І сходзяцца цені здалёк,

Для іх не зачынены сені,
І шапкі здымаюць далоў,
І ціха расходзяцца цені.

Гаворыць агонь.І сюды
Не кожны па снезе заверне.
За намі, нябось, праз гады
Таксама зачыняцца дзверы.

Не будзем, мой дружа, калець,
Хоць вецер наваліцца з ровам.
Спяшаюцца дровы.Канец.
Палаюць бясконцыя дровы.

**СВЯТА ПТУШАК**

Прамень паклаў
Далонь на грушу.
Заве плакат:
"Паможам птушкам!"

Як добры знак
Для паднябесся,
Шпакоўню ўзняў
Вільчак сабеса.

Калгас паслаў
З раллі бароны,
Нібы ў пасаг,
Буслам на кроне.

І пабліжэў
На вежы вэрхал,
Слабы – ніжэй,
Гучней – наверсе.

Страхою крыл
Амбар накрыты,
Яшчэ б накрыць
Развал карытны.

Глядзіш з акон,
Хай Бог бароніць,
Няма вакол
Мудрэй вароны.

Няма дужэй,
Няма і ўвішней.
Не спіць даўжэй,
Лятае вышай.

Ларок трашчыць
Падчас палучак.
І кліча шчыт
На свята птушак.

## НЕПАПРАЎНЫ

Вецер у скверы грабе
Залежы лісця.
Думы нясу на гарбе.
Дождж – хоць заліся.

Цягне радоўку трамвай.
Здоўжыцца ноччу.
Гэтак трымае турма
Выраку ношу.

Транты да торбы складу,
Часу б не страціць.
Свету находзіць кадук,
Хай яго трасца!

На табе ўласны блакнот,
На – акуляры,
Покуль з заспаных бакоў
Счыніцца алярм.

Хочацца зорам маўчаць,
Выспацца – воям.
Прыказку стаў прыкмячаць:
Вольнаму – воля.

Думацьму,
спрытна ўсё ж збег.
Прама...Праз вечнасць...Направа...
Зноў перавучваць сябе?
Гіблая справа.

## СТАРЫ МАСТАК

Гаспадар паблажэў.
Глуха стукае фортка.
Ён да шыбаў бліжэй
Пераносіць афорты.

Стала строга відна
Доля ў цесных вярыгах.
З ёй святая вада
Каля ног гаварыла.

Уздыхаў, нібы дым,
След чырвоны на гліне.
Быццам з бронзы,плады
Варухнула галіна.

Адступала раса,
Адпускалася немач.
Жытні дзень расаваў
У высокае неба.

Апантаны пастух
Пры раскіданым статку.
Непрыкмечаным дух
У паветры застаўся.

Збыўся звысака чын:
Бог афорты заказваў,
Як зрабіць іх, прычым,
Без ніякіх аказій.

## БЕРАГ

На дзюнах ветрам сасна прашыта.
І ходзіць мора, як ходзіць жыта.

Для кожнай хвалі душа адкрыта.
І ходзіць мора, як ходзіць жыта.

Прыбоем стане твой след забыты.
І ходзіць мора, як ходзіць жыта.

Не намі будзе сто год пражыта,
Дзе ходзіць мора, як ходзіць жыта.

## НАД ЮНАЦКІМ ДЗЁННІКАМ

Па даўняй завядзёнцы
Набраць таемны код –
І памяць стане дзённік
Гартаць з юнацкіх год.

Пялёсткі тых старонак
Не лётаюць жвавей,
І сам,як нож у тронках,
Амаль заіржавеў.

Ды ў запісах паспешных
Відзён забыты дар:
Пры ім цвікі да плешкі
Заб‘е адзін удар.

І ў мускулах успыхне
Жалезны перабор,
Тады без лішней пыхі
Шпуляй мяхі за борт.

Пачуеш – не дапетрыш –
Трашчыць сусветны трут,
Калі ў сардэчных недрах
Гуляе землятрус.

І раптам ручка пекна
За горла возьме – край!
Брысці мне з раю ў пекла,
Ці йсці праз пекла ў рай?

## АКРАВЕРШ

Калі пярэймы дня,дык варта
Адходзіць хмарам на спачын.
Мычыць цяля пад вольнай вартай
Епархіяльнай каланчы.
Йдзе фарбы дух ад школьнай парты.
Шукае час сябе упарта:
Ад ліха выкінуў ключы.

## АСТРОЛАГ

Загібелы астролаг
На задворках планет
Жыццяпіс іх патроху
Вывучаў праз ларнет.

На апошняй старонцы
Быў дапісаны сказ:
"Ты не наш абаронца:
Ты забыўся на нас."

І відаць,каб закрэсліць
Скаргу злосных зямлян,
Глуха плюхнуўся ў крэсла,
Дзе пакойчык займаў.

Акуратным алоўкам
Напісаў у адказ:
"Я,панове, не лёкай,
Ды і выспацца час!"

## ДЗЕД ЛЯ ЛАЗНІ

Пад наглядам сядзіб
І вільготных вяргіняў
Дзед ля лазні сядзіць,
Як тутэйшы Віргілій.

Не на службе прысеў.
Спакваля, не адразу
Задрамаў пакрысе –
Бы нясе абавязак.

Сну павека зайшло.
А вуголле скавыча,
Дзе жанчына за шклом
Палыхне бліскавічна.

Распірае куты
Дыхавічна задуха.
А спакусы каты
Дзеду скардзяцца ў вуха:

“Гаю, ты мой гаю,
Зялёны мой гаю,
Страціў я дзяўчыну,
Цяпер не паймаю.”

Схамянецца стары:
Думкі шыты не лыкам!
Бы з юначай гары
Нехта ўголас паклікаў.

Дзед расшпіліць кажух.
Жытка, хай жа ты лясні!
Косці выпраміць дух
Несмяротнае лазні.

**ПРЫМАЎКА**

*Жарт*

*Як божая раса*
*Нападае ў дастатку,*
*Ты загубіш парася,*
*А знойдзеш свінаматку.*

Пасля дажджу ў чацвер,
А можа й папярэдне,
Ты згубіш мел,павер,
А знойдзеш, браце, крэйду.

А ў сне цябе анёл
Пагладзіць ручкай здолеў,
Ты згубіш толькі ноль,
А знойдзеш тройчы болей.

А пашанцуе зноў,
То на святыя нігды
Ты згубіш пару сноў,
А знойдзеш раптам мігды.

Калі напрыканцы
Пачуеш свіст рачыны,
Ты згубіш два дубцы,
А знойдзеш дзеркачыну.

І каб якая дрэнь
Зайздросціла не зрэдку,
Ты згубіш толькі хрэн,
Тым часам знойдзеш рэдзьку.

Здзівіўся абалдуй,
Пачуўшы пры нагодзе ж:
Згубіў – дык не бядуй,
Не радуйся – як знойдзеш.

**САНІ**

А час пайшоў наадварот,
Давай усядземся на сані.
/ На іх ля здвоеных варот
Дыван у колеры засланы./

На збруі тояцца званцы.
У грыве песцяцца істужкі.
І не крануты ў два канцы
Сумётаў белыя падушкі.

Пакуль дарогу апрастаць,
То капыты танцуюць дробна.
Іскрыста снегу ля прысад,
Як жарабцовай зорцы ў лобе.

Нарэшце – ходам са двара,
Адной хвілінай – на прасторы.
І ветру можна давяраць
Гасіць пад палазамі зоры.

Штохвілі карацее шлях:
Святыя, дайце раду ў помач.
Ты з іншых санак перайшла,
Каб цесна стала дыхаць побач?

Салодка хіліць паварот.
І сёння на апошнім самым
Рышток залепіць снегам рот,
Кульнуўшы сані з галасамі.

✵✵✵

Мы з табою браму мінавалі.
Ганак нораў паказаў круты.
Ды для нас зусім не існавалі
Плётак невідомыя драты.

Птушак несмяротныя забавы.
І кудысь гадзіннікі імчаць.
Нам з табою час не трэба бавіць,
Нам з табой яго не прыкмячаць.

Вочы слухаюць,а сэрца чуе.
І шугае музыка душы,
І раса на дубчыку начуе,
Маладзік гайдаецца ў Каўшы.

Мы з табою разарвалі ловы:
Іх прынесла звада,як вада.
Ты такія мне шаптпла словы,
Што цяпер памерці не шкада.

**ВОБЛАК**

Воблак нягучна ляцеў
На шэлест крутых далягляддаў
І мне на паштовым лісце
Твае завітушкі пагладзіў.

А потым растаў ён і знік.
І сонца адсвечвала збоку.
І я з той пары – паштавік –
Разношу па свеце аблокі.

**КУПАННЕ**

Дзень пацягнуўся ў аблокі
Парасткам,
дымам,
крылом.
Выгнуўшы стан крутабокі,
Блішча рака пад бугром,
Маючы нешта прыпомніць,
А потым знянацку забыць...
Плоцева,
веранда,
поўна
Хоча жанчын агаліць.
...Хочацца жарту забавы,
Іх зараз хоць возам вазіць.
А вокліч шчаслівы:ой, бабы! –
Дагэтуль над светам вісіць.

## АБНАЎЛЕННЕ

Паўнее сонца круг.
Шаша страляе прама.
І робіць рэзкі зрух
Ракі кардыяграма.

Узбіўшыся на дах,
Паводзіць бусел лобам:
Яму – нішто ў лагах
Старых снягоў жалоба.

Сяроўжкі збоч вісяць
Па самай шчодрай мерцы.
Стукоча мне вясна
Тваім адталым сэрцам.

Мне голас твой чуцён,
Завоблачны, за плотам.
Такое пачуццё –
Як спосаб для палёту.

## ВЯРТАННЕ

Напэўна, было не чуваць
Увечары свету старому,
Як клаўся анёл начаваць
І брохнула рыбіна грому.

Блішчала на небе раса.
Таілася слова пад бэзам.
Нячутна твой шэпт вырастаў,
І сэрца зрывалася ў бездань.

Даўно адбылося.Расце
Трава над апалаю зоркай.
І мне ўсё прасцей і прасцей
Брысці з заімглёным узрокам.

❋❋❋

Наступілі на леташні след

Нашых крыўдаў зламаныя цені.
І прыслухаўся стомлены свет,
Ці яго мы спагаду ацэнім.

Павярнула ты моўчкі назад,
І парвалася згоды намітка.
Толькі вецер рабіну нізаў
Пра запас на чырвоную нітку.

Халадала.Чарнелі вакол
Нерухомага дому прысады,
І збіраўся здалёк да вакон
Недзе снег з завірушным надсадам.

А пакуль жа падпальваўся кнот,
/ На бяду электрычнасць прапала /
Ціха бразнула шыбай акно:
То душа уцяка... уцякала…

❈❈❈

Адчыняю студыю любові,
Зачыняю змроку каземат.
Болей не сустрэнуцца абое,
Як з вясной не сходзіцца зіма.

Расхінецца воблака над гаем,
Зазвініць праменне на слупах.
На траву няўклюднымі нагамі
Не захоча вечар наступаць.

Разляціцца фарба на палотнах
І зляцяцца сэрцы аддалёк,
І такому спеўнаму палёту
Пазайздросцяць пеўчыя палёў.

Адчыняю студыю любові.
З пэндзлем завіхаецца мастак.
Ён начуе недзе каля Бога,
А сюды сыходзіць па мастах.

**РАЗРЫЎ**

На парозе стаім.
Неабходна спяшацца.

Адыходжу, як дым,
У камечанай шапцы.

У чужых на віду
Заставацца нягожа.
Не іду на бяду,
А як цень, адыходжу.

Дом пад чыстую здаў,
Бы забіты цвікамі.
І знікаю, як здань,
Непапраўна знікаю.

Лепш у пекла жыўцом.
Там пакінеш жахацца.
Хіба гэта жыццё?
Від на жыхарства.

**2**

**АБАЗНАНАСЦЬ**

Солі пуд хоць і з“елі –
Развядзе паваротка.
Шлях, як вечнасць, кароткі
Нешта бавіцца ў Зэльве.

Дрогне конская храпа…
Кропля шусь да каршэні
Не з легенды жэнь-шэню,
А з-пад пошапту граба.

Сцісне пасам завея
Постаць,
думку,
зямліцу.
Каб хацеў замяніцца,
Дык ніхто не заменіць.

…не вяльможна-вандроўна…
…з гузаком і агрызкам…
…глянь, вякуюць вароны…
…бач, парэшткі харызмы…

Мусіць, зораў музею
Тут адмовілі ў шыльдзе:
Мех дзіравы пашылі –
Высыпаецца зерне…

**ПАЛЕСКІ ЗНАК**

І пры паставе без падстаў
Не хоча конь падковай грымнуць,
А вунь, як выкапень, паўстаў
Пад паляшуцкай смольнай грывай.

Дрыгве хрыпатай асака
Аперазала нанач горла.
Палессю здрадна высыхаць:
Палессю плёскацца не горна.

На ясяльдзянскіх паплавах
Спраўляюць згадкі, як угодкі,
І хто дубы не спілаваў,
І хто не рваў гарляк з-за сотак.

На бітых бітлах – не з балот –
Як скруха, скура закарэла.
Нашэсце лоз блішчыць, а бот
Гразёй муруе ім карэнне.

Затокі Прыпяці завёў
Чумацкі шлях у зман пашанай.
Цяпер жа, цьмяны, у завой
З вышынь на згоду не спяшае.

Зару, расхрыстаны,абняў –
Кажух на тое мае моду.
Карчма не вычарпала дна
Неверагоднай вёскі Моталь.

На плечы ўзрост даніну клаў:
Дабіць не здолее да ручкі!
Во! Слінка ў вісуса цякла:
Калені – блісь! – у паляшучкі!

Тут здабылі надзіва спрыт
Буслы ў вандроўцы за плугамі.
А каларыт каму абрыд? –
Ён на балоце палягае.

## ЗВОН

У дастапомнай брамы лёс
З паданняў, занядбаных здзекам,
Пазбыўся спеваў і калёс,
А памятка сядзіць у дзеўках.

Дзе балем цешыўся палац
І бушавала жарсцяў безліч,
Дарэмна слёзкай паліваць
Нябыт азызлы і аблезлы?

Падмурак: каецца рагоз.
Алеі знак: уздых кунегі.
Няма і духу пітных доз,
Што вус замочвалі Сапегам.

Ад цішыні абшар аглох.
Дзівак з дарогі долу кленчыў.
І тынку, бы нябесны, пух
Яму засеяў белым плечы.

Вандроўнік меў заплечны скарб.
Хапала моцы і хапіла,
Калі шпурляла ў бездань, каб
І там захмар“е падхапіла.

Ён уздымаў на браму звон:
І праміргала ўчынак варта.
Яшчэ ў зародку быў закон,
Што званара зрабіў вар“ятам.

## ВЫПІСКА
## З РАДАВОДНАЙ КНІГІ

Зыходзіла сонца на глум.
Вала валюхала валока.
І вечар нагортваў імглу
На вобад кровіна вока.

У лёт шыкаваўся кажан.
Трыснёг прыпадаў да завою.
Да помных палацаў Ружан,
Здалёк спрычыняліся войны.

Круціла сялян сатана:
У пырніку немач захрасла.

У мораку дзень патанаў,
А ноч распажарвала праслы.

Ды прадзед няслабкі Антось –
За плечы – адвагу і лапці:
Круціў невідомую вось
Без шанцу, што вечнасць заплаціць.

Раздзёр небасхілы вятрак.
Над дзедам зямелька трывае.
Захочам ім спадкі вяртаць,
А мы – і ў руках не трымалі.

**ПАСЛЯВАЕННАЯ АЗБУКА**

Прытуліла азбука дзяцей,
А дарослых перадоўкі згрэблі.
Крэйдзе з дошкай раіцца лацвей,
Чым калёсам з пазванкамі грэблі.

Таямніца літар: хлапчуку
"У" дае дадатак нескладовы,
І між тым, падобны на чаку:
Вырві –
        азбука разваліцца, як дровы.

**СМАГА**

Дражніла вытрымку біклага
У барыша і галыша.
Навошта скардзіцца, што блага
На сёмым небе шалаша.

На загагулінах ваколіц
За плюшч чаплялася іржа.
І пыл, згрувашчаны на колы,
У лес з палёгкай заязджаў.

Лістота ўзбоч не трапятала.
Знікаў за неба самалёт.
І смалакурня між кварталаў
Змаглася зморай і смалой.

Да ценю хмарка забягала.
Круціла бераст у крыжы,

А ён, трывушчы, як Ягайла,
У квас сухарыкі крышыў.

Жада не з ласага прыпасу
Хавала кроплям хваласпеў,
А ім аднакі: хто з лампасам,
І хто лампасу не саспеў.

З часоў сярмягі сага смагі
Сплыла ахвярна па рацэ.
І толькі гарлячок біклагі
Пяшчотна схоплены ў руцэ.

## ЭЦЮД
## НА ЗЭЛЬВЕНСКІМ ВАДАСХОВІШЧЫ

Не скрэсліць неба ў клетку
Руцэ худога бонзы.
Чмялі варушаць бронзу
Над вухам у палетка.

Рамеснік-валацуга
За грош сябе затопча.
А хваля камень точыць,
Шаруе коням цуглі.

Страката скачуць краскі.
За пэндзлік служыць песцік.
Біблейскі вокліч весціць:
Адсюль красу не ўкрасці.

Караскаецца чайка
У неба зноў, дурніца.
А ў доле бліс вадзіца –
Сядай – і закачайся!

## МАТЫЎ БЕРАГА

Няўжо тапталася па рэчах
Падэшва крыўды і растання:
Стаяў, надломлены парэнчай,
І сонца ценю не прастала.

Дзяўбла пад гвалт скарынку глею
З імпэтам чаечая каста,
Няўжо на беразе згалела,

Хаця заможна можна красці.

Пясок і зместам, і замесам
Няўжо не меў хаўрусу з зеллем,
Бо не знайшлося хмелю месца
На тапчанах у сухазем“я.

Пагас на перавязі ветразь:
Трымаў запазухай анёла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Няўжо і яхта знікла летась?
Паслухай! Зноўку зазвінела…

**МОРАНЫ ДУБ**

Пад карань заморанай дуб
У змроку бяда захліснула.
Асілкі спазналі бяду
Раней, чымся вернікі булу.

Пяскамі замкнёны нябыт.
Заціснуты дых паясамі.
Маланкі, руку каб набіць,
Наўхіл небасхіл распісалі.

Вунь гора з пустым рукавом
На водмель прыбіла ад пекла.
І хваля паўзла па крывой
Далей ад пякельнай апекі.

Пакуль пачынала віднець,
Запала на лоз парапеты,
А потым на ўтомленым дне
Загойвала дубу хрыбетнік.

…Выцягвае мораны дуб
Лябёдка жалезнаю дзюбай,
Ды тая – вунь лашчыць ваду –
Нямогламу, мабыць, найлюба…

**ДЗЯЦЕЛ**

Здалёк іх вабіць дух глячка:
А дух той шчыльны, хоць няшчымны!

Салоўка – трэнер гарлячка,
І ястраб – прагны да начыння.

На варце дробаў і драб“я
Саплівы дзяцел з вінтарэзам.
Вярыгі ўціску для раба
І дзюба дзятлава – з жалеза!

І фаліянт пяшчотных спраў
Яна курочыць, бы з гарачкі.
А там знайшоўся коскам спрат,
І клічнік распрастаў гарлачык.

## АСЕННІЯ КРЭСКІ

Дагарэў бульбоўнік. На адхон
Вецер пасмы дыму прыціскае.
Выраяў няпісаны закон
Меціць высі почыркам наскальным.

Захліснула бліскавіца мех
З каптуром вавёрчыных арэхаў.
Адабрана гвалтам ад уцех
У дупле зажалілася рэха.

На бары, нібы календары,
Ліст надзеі дрэмна завісае.
Закілзаў шалёныя віры
Сом адгадаванымі вусамі.

І мастак у змешаных лясах
Пераблытаў пэндзлі канчаткова:
І яму і лес, і палісад
Не даруюць іскры Канчаковай.

Абдымае восень паляшук,
Хоць не надта падкі заляцацца:
– Я табе дзяцей пакалышу,
Покуль, як лістота, разляцяцца.

Вымятаюць ходнікі. І парк,
Як нашчадак дрэва Радзівілаў,
Не шкадуе: золата не брак!
Толькі каб без бойкі раздзялілі…

## БЕЗ СЭНСУ

Зноў арапістыя вятры
ўсчалі
бессаромныператрус
восені.
Асаблівая прага
ў марадзёраў
да залатога запасу
лістоты.
І ўжо затым
неспатоленыя
не грэбуюць
нават сметніцамі.
І даводзіцца апасля
змардаванаму мураўю
трымаць
на уласным гарбе
сумёты зімы.
Каб не змерзнуць.

## ДВА МІКОЛЫ

*Вясенні Мікола прыходзіць*
*у маі, зімовы – у снежні.*
*Народны каляндар.*

На соймік сойкі жыццястойкі
Намацваў долы пілігрым.
Паляна згортвала настольнік:
Ляжаў разгорнуты, як дым.

Нятупкай сцежцы напярэймы
Адвешваў сківіцу гарох.
Расы блішчастае бярэмя
Загроб аберуч агарод.

Капуста спала, як распуста.
І заяц велічна гавеў:
Калі ў вантробах зайца пуста,
Дык зайцу поўна ў галаве.

Пакуль агонь са стрэльбы плясне,
Каб дзік задзёр пляскаты лыч,
Валок ваўчыска хіб уласны,
Валокся следам хвост, як біч.

На лапу ласаму мядзведзю
Збірала хабар мёдны борць.
Хвала Заступніку, бо ледзьве
Не згрэбла лапа пчольны збор.

Наводдаль грузнага парома
Пусцілі Нёман па руках.
Дзяліць выгоду – дык пароўну! –
Язі змясілі перакат.

Ласінай мордай раганосца
Стажкі няўломак барукаў,
Хоць нос не нёс, гляка адносна,
Зламысны колер бурака.

На ласку вернікаў тутэйшых
Надзеі ўскладваў ураджай,
Аднак, ізноў сябе завершваць
Паклікаў слёзных гараджан.

Фурманка скардзіцца на мосце:
Наліха везці лішні мех?
На мосце ў радасці і ў злосці
Найлепш апірышча не мець.

Разора спражыла бульбоўнік:
Вугольчык тыц – Міколу ўпёк!
І той напоі, як набоі,
На печ з каморы павалок.

## ЗАЗІМАК

Налева збочыў ліставей.
Направа зрушыцца пазёмка.
За гай зашыўся салавей,
І глотку драць адтуль няёмка.

З каморы польныя дары
Калядна будуць пахвалёны.
Дарэмна ў прыказцы дурны –
Не слабкі одумам валёнак.

З палудня дзень пайшоў на знос:
Шыхуе вечарам пагрэцца.
І націрае жорстка нос

Тутэйшы дух эпікурэйцу.

Затуліць поцемкам лазняк
У шалік доўгую аблогу,
А шкалік згодны раскілзаць
Кабылку пожаду былога.

Маўчок парафія завей:
Чакаюць снежня-архірэя.
А той да посту прызаве –
І хто нядуж – перахварэе.

**МЯСАЕД**

Зара шматкроп`е з сухара
Зіме не крышыць на спадніцу,
А ў дым закручвае зара
Ядловец з пахам паляндвіцы.

Абліскавічаны нажом,
Не церпіць стол пакутнай пусткі.
І лезе прагна на ражон
Гурок, прыкметна, што распуснік.

Не ўзмах сігнальнага сцяжка
Для бульбы вызначыў напрамак:
Гастрылі вока спадцішка
На бульбу ў корабе і краме.

А той нягожа наракаць:
Маўляў, гібею… нацнабытак..
Бо носіць бульбу на руках
Чыгун пад накрыўку набіты.

У бульбе выведалі толк
Нутром трывушчы з непітушчым.
Ды хто яе нашчэнт затоўк?
Таўкач, распушчаны на тлушчы!

Зацьмяць кілбасы бляск калёс
У апраменні ўласным бляскам.
Не апанурыцца на знос
Шана калёсам і кілбасам!

На лугавіне рушніка
І бацька-бохан, сын-акраец

Здалёк віну паражняка
Штрафною мерай пакараюць.

Кадык, задзёрты дагары,
Шукае згубленае месца,
Пакуль імпэт не дагарыць,
Шалёны ў звычаі і змесце.

І распанелы аглаед,
І цюцька ў спадчынным канфузе
Не смокчуць лапу ў мясаед,
А веліч чухаюць на пузе!

## РУЧАЙ ПАД ЛЁДАМ

Замкнулі голас ручаі,
Каб ён завей не бударажыў,
Ні тых – зашклёных у гаі,
Ні тых – з дрымотным камуфляжам.

Зіма навесіла расклад,
А ў ім адлігі – не па тэме.
Ірдзеюць водбліскі Каляд,
Як краснапёры на патэльні.

На круглагрудых снегірах
Шугае багра – і нядарма
Яны нараніцу гараць,
А ўвечар грэюцца над жарам.

І на дзядзінцы ля ДэКа
Абноўка грае, як гаёўка.
Ахрысцяць жарты мінака,
Не злічыць кветак шаляноўка.

Ды ўсе нацешымся наўрад:
Цішком смутка ў сувой загорне,
Калі ты ў радасці не рад,
І дзесь ручай зажаліў горла.

Паслухай сам перад усім:
За брамай скрушнага крышталю,
Як ён пад сподам збеглых зім
Гучыць у шолаху і шале.

## ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ СНЕГУ

Прагны гуду завей,
Прыдаўся гербарый сшытку.
Словы "ліпень" і "салавей"
Выкасаваны з ужытку.

Коцам накрыла дол
Там, дзе найбольш страката.
Страціў час багамол:
Скарбам ці势 стануць страты?

Свечку вызваліць бег
З цемры, да збродні сквапнай.
Падаў на плечы снег:
Мур аддзірае вапну.

## ТРЫЯЛЕТ ХВОІ

Хавае хвоя подых смол
Сама ў крыштальным футарале,
Каб іскры ім не патуралі,
Хавае хвоя подых смол.
Зыйшлі на поўдзень пастаралі.
Зіма аджаліла памол.
Хавае хвоя подых смол
Сама ў крыштальным футарале.

## НАРОСХРЫСТ

Ад кузні збочыла зіма,
Як Нёман лёд здзіраў пад Коўна.
А каваля круты замах
Жалеза зводзіў на падкову.

Для жарабца – любві жраца,
Вухналь – за рызыку – заточваць.
Сама не клічуць на жыўца,
А б"юць аглобляй у затоцы.

І гразь рашучага раўка
Матляюць ярасныя спіцы.
На грахавода і грака
Напала прага будаўніцтва.

На верхавіну з году ў год
Чапляе лес у дзірах сіта.
Відаць, не ў пошуку выгод
Гучаць пупышкі, як сюіта.

Ага! Расхрыстаны актор
Прыліп з біклагай да бярозы.
Забыўся шэльма з нейкіх пор,
Што кляўся: жыцьме на цвяроза!

**МЕМУАР**

Сягалі за неба вышэй
Трохкутнікі бэзу:
Пазбавілі плётку вушэй,
Каб зрынуць у бездань.

Сусветам круціў салавей –
Гаёвы нахаба.
Казалі, цяпер пасівеў
Ад помсты за хабар.

І назву Зальвянка звяла
У поцемкі краю.
А з нас дык вяроўкі віла:
Цяпер дакарае.

І жмурыцца ніца здалёк
Застуджаны назірк.
Намацваюць рукі кіёк
Абедзьве адразу.

Дарога рыпучы каўчэг
Хіснуць паспяшае.
З яго вунь падсмалены збег
На пошук пашаны.

Саломінку згадкі хапаў
Штыкетнік з рыштунку:
Хацеў ратавацца хіба?..
Няма паратунку.

Згібала ваколіцы стан
Крутым кіламетрам.
Ты, любка адчайная, стань:

Затулімся ветрам.

А ён нас у прыгаршчах нёс,
Дзе знічка замерла.
Затым шуганула з нябёс…
… І сэрца раздзерла.

**ЛЕТАСЬ**

На схіле аглухлых дзён
Стала Зальвянка Летай.
За ценем яе ідзём
Туды, дзе пяялі летась.

Распусціцца кветкай шлейф
Самотнага самалёта.
Няўжо шкадаванне шле
Туды, дзе збылася лотаць…

Адвольна былым гадам.
Бліскуча бярозаў білам.
Іх свет, як анёл, гайдаў
У прыгаршчах небасхілу.

На локцях тваіх чытаць
Салодкі адчай травінак.
Нязвыкла расу чапаць
За шкельцы яе трайныя.

Воклічаў знік галоп.
Згрымела мястэчкам стрэмя.
Воблак паверх галоў:
“ Родная, не старэйма…”

Спяшаю гады назваць
І выбраць – каторы лепей.
Стагоддзе таму назад…
А ты прашаптала:
– Летась…

**РЭЛЬЕФ**

Скарынку сонца напалам
зламаў заходу бор рукасты,
вясёлка мёд не дапіла

і зацягнула вузел кайстры.

Каўтаў у схове сухавей
захраслай глоткай чад кялейны:
яго каханку салавей
украў  на дзёрзкае калена.

Ды непазбежна – дзесь пад Спас –
здагадка думкай кіравала,
што пакрысе сплываў запас
не толькі, мабыць, карнавала.

Гамонку вабіў перабор:
хістаўся звычай незалечны,
а мост з раструшчаным рабром
услед за полазам заенчыў.

Спіхнула зорку на сумёт
гурма суродзічаў на кручы,
а ёй хацелася самой
ляцець і цешыцца бліскуча.

Схіляла ноч спакусны стан
у кажушку, як багра печы,
і мела вызнаную з тайн,
калі нямка рабіла пеўчым.

**АРЭХ**

Як пёрку, сам сябе панёс
з уздыхам ветру не салёным
дзе мераў вокам глыб нябёс
са стога стомы і саломы.

З нутра не спешчаных крыніц
пачуўся зноў рашучы рокат,
здалёк на медным карані
бары закрэслілі барока.

Злічыў з загрыўка да капыт
лазнога чорта злыя плямы,
шпурляў паленні да капы:
пад ім каб полымем палалі.

На зграбным плечыку зімы
дыханнем вызначыў палонку,

і тая прагла замяніць
развагі лёд на вір палону.

Вяртацца скурчаным – не грэх:
нябось не вымерла парода,
маланкай спалены арэх
сабе не свішча ўзнагароду.

## КАХАНАЯ АПОВЕСЦЬ

Нібы пламень на дах наскочыў,
Бо зажадалі закрычаць:
– Загадваў суд!
– …І раіў ойча…
– Пад`юджваў кормлены карчмар?

Дазнаўся: праведных – да ліха.
Дачуўся: галасу – праз край.
Ды толькі ты сваім уздыхам
Мяне выводзіла з-за крат.

Пад шэптам зверху палымяным,
У лёце ярасных расніц
Нам цесна стала на паляне
І вольна ў сховах верасных.

І патаемны па прыродзе,
Здабытчык прагі для прычын,
Твае я рысы не знаходзіў
У вабных воблікам жанчын.

Калі журба пры мне паўстала,
А ведаў: хутка не міне,
Твая краса, твая пастава
Зрабілі дужага з мяне.

Як дзённа-срэбны на пагорку,
Прыцьмелы ўночы, іней ззяў,
На нас заклёны свет нагортваў,
Ды пасам лютым не звязаў.

Была рашучаю – да болю,
Дзе страху дзьмулася сава.
Хацеў не я, а ты найболей
Сабе свабоду скасаваць.

І мілаваў твае каленца

Не вецер з`езджаны штогод –
Тваёй пяшчоты спадкаемца
І вораг будучых нягод.

## НАСЛЕДАВАННЕ БАГДАНОВІЧУ

**Рандэль**

Дзяўчына побач з вадаспадам
Рукамі затуліла твар.
І шчыльна абвалок загар
Яе і прагны, і дападны.
Успамінаецца дакладна:
"Чаму, – спытаў, як той шкаляр, –
Дзяўчына побач з вадаспадам
Рукамі затуліла твар? "
Залежна ўтомны ад даклада
І дзён, што тоіць каляндар,
Нясу ў вачах за боскі дар,
Нібы ялінку на Каляды:
Дзяўчына побач з вадаспадам.

## ЗДЫМАК З ВЫПАДКУ

Зноў зіма. Незнарок.
Люд не выракся гурту.
Дзіўна. Ледзь не зароў:
Вунь жанчына на гурбе.
Елка. Шалік . Сезам.
З ёй нязграбны мужчына.
Дык няўжо гэта – сам?…
… Паміраць немагчыма.

## З НОЧЫ

На чым свет кленучы,
Свет не злепіш праменьчым.
Бразнуць моўчкі ключы
І паслабяць раменьчык.

Шлях патроху цямнеў,
Покуль побач аралі.
Толькі ў зімняй цане

Шляху снежны арнамент.

Ах ты, сад-далягляд,
З павалокаю вока.
Хто каму далягаў? –
Спавіла павалока.

Расшпіліўся каўнер.
Ліст палае і згіне,
І яго не кране
Сэнс “ад гімна да гімна”.

Западае ў пасцель
Не адпешчаным цела,
Каб забыцца паспець
На таго, што хацела.

**ВУЧЭННІ**

Адгэтуль на сотай вярсце
Вільготнае сушыцца сонца.
Радзімцы да шыбы няўсцерп:
Спякотна жадае вайскоўца.

Заскочыць – няўжо?! – шалапут.
Пагон прыкамечаны. Жарты.
Анёл ёй на вушка шапнуў…
Цыганка нагледзела карту…

Не ведае зух-лейтэнант,
Што мае Сусвет перашкоды.
Расквеціцца ордэн, як бант!
А ордэн – і ў шклянку не шкода!

Анёл не ўздымае трубу,
А шэпты не весцяць трывогу.
Яе абвяшчаюць з трыбун,
А след – як раса за травою.

Навошта ім прага засад
І лішняя ярасць пагоні.
Ды падае зорка за сад,
А трапіць магла на пагоны.

**КЛАВА**

Навала – лічы – аблава
Зацьміла знянацку свет.
Над вухам грыміць дуплет:
Ва ўсім вінавата Клава!

У Клавы пагляд яскравы:
Не жміндзіцца, бач, кума.
На блузцы яе кайма
Калышацца злева ўправа.

У Клавы не толькі крама
Люстэрку нясе фасон,
А радзяцца Фа і Соль –
Суседкі па нотнай раме.

У Клавы, няйнакш, пастава
Звядзе й барана на зман.
Ратунку! І сам баран,
Варушыш губамі: Кла-а-ва…

У Клавы з усіх старон
Лісты, а да іх прыпіскі,
Ды творцы прыпісак з піскам
Лавілі, аднак, варон.

У Клавы свае падставы
Знайсці ім надзейны спрат.
Драпежна блішчыць карат
Яе безнадзейнай славы.

У Клавы спяваў гуляка,
На пальчыках лашчыў лак,
Ды хляснуў спакусны гляк –
І пляжыць пакос сабакам.

У Клавы пустая лава:
На покуць не ўсадзіш грэх.
Казаў невідушчы грэк:
Чакай – і здабудзеш, Клава!

У Клавы анёл на плечы
Не крылцы – а шэпты склаў.
Ён склеіць асколкі шкла,
І кветку распусціць глечык.

## ТРЫЯЛЕТ ПЯРСЦЁНКА

Пярсцёнак з каменьчыкам фальшу
Наўрад ці віну захаваў.
Дарэмна раней зухаваў
Пярсцёнак з каменьчыкам фальшу.
Аднойчы ён вам змахляваў
І сцяўся на пальчыку вашым…
Пярсцёнак з каменьчыкам фальшу
Наўрад ці віну захаваў.

## НАЎЗДАГОН ВАЎКАВЫСКУ

Берэткай вячэрняй школы
Ізноў маладзік завіс.
Нагадвае колу кола –
Ваўкавыск!
Ваўкавыск?
Ваўкавыск!

У горада двух вакзалаў
Сталёва-садовы стан.
Казань тады казала:
Сам сабе лёс дастань.

Друкарскі свінец дурманіў.
Ля скроні Сусвет кружыў.
Цесна заўсёды ў краме,
Вольна ў царкве заўжды.

З выяваю Ваўкавыска,
Як воблак, здалёк паўстаў
Дзень, што сады не высек,
Ракі не спраміў сустаў.

Каўнерыкам камсамолкі
Азначаны палісад.
Часу хапала толькі
Заснуць, каб адразу ўстаць.

Нязмераны век. І побач
Дыхаюць след у след
Вусны адчайнай пробы,
І вузіцца з жахам свет.

## ЮНАК. БІЯГРАФІЧНАЕ

Стаялі ўздоўж платоў
Сады крутога ўзросту.
Шугала паліто
Навыраст і наросхрыст.

Бальшак здалёку бег.
І хутар кукарэкаў.
Зімы з вясною збег.
Дымок ад цыгарэты.

Не думаў, не гадаў:
Закон – заўжды, як дышла.
Не выйшла галадаць,
Спяваць затое – выйшла.

І рашчапляўся свет
Жадной на грукат клямкай.
Як боскі запавет –
Цягні латынь за лямку.

Не кожны асталоп
На лаве лаву гладзіў.
Уласных пасталоў
Слядок на даляглядзе.

Яго не ўсцеражэш,
Хоць чарка дасць імпэту.
Няма ніякіх меж
Сусветнаму паэту.

## АБДЫМКІ
## З МАТАЦЫКЛАМ

Блішчасты, як матацыкл,
Налева ад хутара, ранак.
Закончыўся ўдала цыкл
Размеркавання маланак.

Хуткасці гаспадар,
Сурова нябожчык цыкаў:
Біла балюча ў твар
Спіцамі матацыкла.

Напружваў маршчыны зрок.
Рышток не глядзеў варожа:
Палёту твайго зарок
Зайздрасцю распрыгожваў.

Прароцтвам усіх Спіноз
Наступстваў няма рашучых.
Паветра пук за спіной
Матляўся, як парашутны.

Еўропу растрэсваў транс:
Ляцеў барон на бароны.
Няма забаронных трас:
Трасцу ўсім забаронам!

Сонца пукаты шлем,
Цялячы галоп на кручы,
Вам пацалунак шлем:
Ведама, ён – лятучы!

Шкада, хто зышоў назад,
А тых, хто насустрач – любім!
Наперадзе буйны сад.
Застаўся растання лубін.

Загваздку згубіць вось:
Адваляцца ў веку колы,
Бо не туды завёз
Ліха шляхам акольным.

Спытаю: з якой "стацці"
Зараз душы выгода?
Адноўлены матацыкл…
Космас 61-года!

## СНЕГ НА ЮНАЦКІМ ПОЛІ

А снег зашыецца за шалік.
Гарачы подых.
Польны лёт.
Шпурляў ты дзёрзка гарт на шалі,
Здымаў ёй месячык на лоб.

Замізарнелі век і волат.
Засмягла горыч.

Знік давер.
А снег раскрышыцца на волі –
І расшпіляе даль каўнер.

Варушыць дым ключамі стомы.
Злятае зорка след у след.
А снег над брамаю застогне
І разбіваецца насмерць.

Звярам адмовіць паляванне.
Прылашчыць змерзлага Сібер.
А снег, як посуд паліваны:
Зірні – і ўбачыш сам сябе!

## ЗНАКІ

**Паэма**

## МЫ

У святле Белавежы,
На раскопе баёў
Мы –
стаім неабвержна,
Як над смерцю быльнёг.

Мы –
крутога замесу:
З гліны,
веры,
крыві.
Нам не зрушыцца з месца,
Дзе ў жытах краявід.

Мы –
ствалы радаводу,
Што стагнаў і палаў,
Як жыццё радавога
На грымотных палях.

Мы –
не ў здробленым зборы.
На Еўропы грудзе
Расшумеліся борам,

Несціхана гудзем.

Мы –
прыгонныя волі:
Знак прымусу не наш.
Захапленняў – даволі!
Зараз...крыху...інакш...

Мы –
не з шайкі ці лейкі.
Адбыліся.Удзень.
Праз грызню, праз калейкі,
Праз...
Куды мы ідзем?

Мы –
няйначай,манкурты.
Хто не ведае страт?
Попел сыпле пакутны,
Даўкі дождж з Курапат.

Мы –
калёсікі-спіцы?
І з выдатнай радні
Выграбаліся шпіцлі
У чужыя рады.

Мы –
хапугі і хціўцы?
Пад сляпучую медзь
Здольны цененька ціўкаць
Там, дзе трэба грымець.

Мы –
забытыя песні?
Не спявае нямы.
Да бліскучак і пенсій
Прадзіраемся мы.

Мы –
скрываўлены гонар
Да пяты ад вяршка.
Як сябе нам агораць –
Нам самім вырашаць.

Мы –
на заўтра надзелы.
Заўтра – з сённяшніх дзей.

Маем цень ад надзеі
Ці надзею, як цень?

Мы –
не друз Задыяка.
Продкі зналі, аднак:
Справы вечнае знакі
Носяць годнасці знак.

## НАПАЧАТКУ

Распрасцёрся, як сцяг,касцёр
І прысудам карае цемру.
Ён чакае братоў, сясцёр
І нязваных гасцей не церпіць.

## ПРЫВІД ЯЦВЯГА

Нада мною вякам рыпець
У імхах гаркоты і ганьбы.
Я барвовы нясу рубец
З Чорнай Ганчы.

Чорнай Русі тыбульскі знак
За маімі плячмі зарастае.
Як яго развітальна ўзняць –
Белавежа маўчыць расстайна.

Мне апальваюць слёзы рот.
І мярцвее каменне ў доле.
Патаемны яцвяжскі род
Заслугоўвае іншай долі.

Дзе маланка,
трава,
вада,
Лёс прысудна знявагу роніць:
Навучыліся нападаць,
Развучыліся абароне.

З-за бажніцаў,
грудоў,
з віроў
Паўстаю я з ахвярным тварам.
Бы раз‘ятранае звяр‘ё,
Вузкавока глядзяць татары.

Ёдка цягнуцца да спіны
Ашалелыя дзіды готаў.
Каб адбіцца,
суняць,
спыніць,
Трэба племя ракой разгортваць.

З-пад мядзведжых дрымучых
скур
Наша сэрца не грукне дробна.
Помсты ноччу затрубіць тур,
Страху выпусціўшы вантробы.

Смуглатвары і дужы князь,
Бы падрэзаны, падаў ніцма...
Нам загойвае раны гразь,
Памагаючы бараніцца.

Ды навала усё ж не міне,
Падпяразаная цесакамі.
Гэта доля мая мяне
Дубам зваленым прыціскае.

На звярыных крутых рагах,
У нагах у Крыве-Крывейты
Мы сабе здабывалі шлях,
А шляхі раздзімала ветрам.

Роды знішчаны, як лаўжы.
Таямніцы.
Вуглі.
Замовы.
Вокал багнаю час ляжыць,
Засмактаўшы, як торбу, мову.

Горай смерці нямы палон.
І з нябыту пячорных лёхаў
Я да вашых іду палёў,
Каб ад вас атрымаць палёгку.

Я гукаю таемны знак.
У Мадэйках,
Ядэшках,
Берштах,
Быццам хочуць наноў пазнаць,
Мне сабакі спагадна брэшуць.

Мой у вашай крыві працяг.
Я яго праз стагоддзі няньчыў...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Так апошні рыдаў яцвяг
З Чорнай Ганчы.

## МАНАЛОГ НАСТАЎНІКА

Не брысці па трысці заган,
Не ступіць на агніска босым,
Не зваліцца у здрады твань –
Стаў патрэбным народу посах.

У зняверы, як рызманах,
Люд пакратаць святло ахвочы.
Я на промні сябе размяняў –
Хай бы ён раскрышталіў вочы.

Адбалелых з народам год
Зрубцаванаму сэрцу не шкода.
Калі думаеш пра народ,
Неабходны тады народу.

А карэнне яму
лычы
Распаролі ў шматкі заганна,
Дый цяперака лаўкачы
Не супроць памясіць нагамі.

Бач,
каб знішчыць ушчэнт народ,
Для пачатку яго пасвараць:
Бацьку сын зацiскае рот,
Бацька плюне –
гары сын гарам.

І са сваркі,
бяды,
шумы
Выцягаюць халіфы рыбку...
/ Свежы прыклад:”метал”-шумы
Затаўклі бессаромна скрыпку./

Асвінячыць карэнны народ
А ці здолеў адзін дэпартамент:
У губу зацягніце дрот,
Абцягніце душу дратамі.

Натапырыць зараза слых
І калючку умэнт раскруціць,
Скруціць крыва – аж зойме дых,
Ды нялоўка сядзець на калючцы.

...Задрыжала раптам рука,
Ды, каб ваш кругагляд пашырыць,
Запытайцеся ў Васілька,
Запытайце ў Рыгора Шырмы.

За ідэю сябе распяць –
Абяцанка-цацанка многіх.
Штосьці іх крыжы не рыпяць,
У цяпле не змярцвелі ногі.

Гадаваць жывата гарбуз
Ледзь не стала зямляцкай рысай.
Бескарысная праўда – друз,
Нам бы ўдосталь маны карыснай.

Я не зведаў калымскіх мук
З абцугамі,
даносам,
крэчам.
Толькі посах з уласных рук
Перад мукамі тымі кленчыць.

І, дарэчы, пра посах зноў:
Ён да веры наш шлях засведчыць.
Забаронных прагнула зон
І не толькі сярэднявечча.

Нам з нявер‘я паўстаць у рост,
З душаў злосна аддзёршы ветах,
Каб на полі айчынным рос
Колас праўды, як промень веку.

**УСПАМІН**
**ПРА ПАЭТКУ**

Фота
Скорана скронь
Непакорнаю пасмай...
Еўрапейскі раскрой.
Капялюшык.Сучасна.

Не адбітак красы,

Без намёкаў на горднасць –
Ад нязломных крушын
Воблік той, верагодна.

Бач, за тою душой
Скарчанелыя зімы.
З іх хто выйшаў-дайшоў –
Справіў зноўку радзімы.

Дахадзягі дайшлі
Крамяністага складу.
Мерзне ў мужнай душы
Тундры жорсткае ляда.

“ Суку ўздымем на крук!
Абязвечым ці нават...” –
Як нахабны парсюк,
Пырскаў слінай Цанава.

Ноч, як год, паўстае.
Дрот.
Аўчаркі.
Баракі.
Пісталет на стале...
Стынь па жылах.Набракла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Сярод поўных півонь
Пад ліпнёвай завесай
Нас на ганак павёў
Час не вельмі зламесны.

Мы ступаем на жар?
Не, ступаем на ходнік.
Ручнікі.
Каляндар
Беларускі, заходні.

Мовіць так:алавік,
Любіць слоўка: шляхотна.
Ад шляхоў палявых...
Ад калючых шляхоў тых...

У жанчыны далонь
Не працягнута шаўкам.
Перад ёю далоў...

Позна сцягнута шапка.

## АЎТАРСКАЕ

У дугу сябе не сагну
На шляху з варагаў у грэкі.
Мала-веле каля агню,
Беспрытульны, хачу пагрэцца.

Пазычаю цяпло. Аддам
Далягляду,
траве,
начлегу.
Мусіць, зараз з Евай Адам,
Бесклапотныя, спаць палеглі.

Як парэпаны ледавік,
Нахіляецца цень кургана.
І бур‘яну нягучны смык
Долю выпетраную не ганіць.

І над старыцай песні
                                        мне,
Пэўна, шчасця не забракуе.
Угары пры чаканні змен
Зоркі дробныя маракуюць.

Ну, а дзесьці...
А дзесьці злосць
Хіжа вузіць прыцэлаў зрэнкі...
Развінае дуброву лось...
Шыю лебедзь нясе ў Лазенках...

Ды пры чым тут лебедзь ці лось?
Грымне чорны цюльпан
                                        Саланга –
Юны хлопец аброніць лёс,
У крыві і слязе саляны.

На прыступках халодных хмар
Абзавецца гранітна рэха...
Арыштант мацюкнецца з нар...
Здрыганецца гудок на рэйках...

Хусткі бабчынай звяў ражок.

Помню –
быў ён не раз вільготным...
А ці б сам палез на ражон?
Не пусціла б, пэўна, выгода?

❊❊❊

...Падкідаю галлё ў касцёр,
І агонь, галодны, глыдае.
Памяць нашу ці хто расцёр?
Заплыла, як лоем, гадамі?

❊❊❊

Археолагі ўсіх часоў
У Гародні,
Міры
і Крэве,
Ля якіх, адкажыце, частот
Адкапаеце мову крэўных?

Дзе згубілася – наўскасы –
Каляды і любові завея?
Мо дарадчыкаў галасы
Нам часова яе заменяць?

На манкурцтва не здольны люд.
Здольны –
гады або паяцы.
Дзе паяцы – там блуд і хлуд,
А праз хлуд нам няёмка пяцца.

На трывалы ступіўшы грунт,
Здагадаюцца неяк дзеці,
Што, маўляў, іхні бацька –
шпунт:
Б‘юць па макаўцы – дзе
падзецца?

Дзецям швэндацца раіў здзек
Па гаях наймілейшай песні
І не чуць, як не чуе зэк,
Што яго аплятае плесня.

Перакормленыя крумкачы

Сярод ночы не мне вяшчуюць.
І таму пасярод начы
Я пад сэрцам сваім начую.

❋❋❋

Напяваючы пра васілёк,
Адмыкаючы з цемры дзверы,
У валошкавым строі здалёк
Да кастра набліжаецца Вера.

Побач вербы ідуць наўзгад,
Зверху ветру гудзе прапелер.
Будзіць сцежку яе пагляд,
Цешыць зоры яе прыпеўка.

“ Я на рэчцы хусце мыла,
На бярозу вешала.
А я хлопцаў не любіла,
Разгаворам цешыла”.

**ВЕРА**

Тут калісці блукаў яцвяг,
Потым легла – не злічыш –
войска.
Я –
сялянскіх бацькоў дзіця
І унучка спаленай вёскі.

Наша спадчына –
промні жаць
І любіць васількі вучыцца
На палетку, дзе болей жах
Не наводзіць вайны ваўчыца.

Наша спадчына – пакахаць
Безаглядна,
адчайна,
ясна.
На расстанне хусткай махаць,
Пры сустрэчы абняцца шчасна.

Наша хата –

з зоркай вайны.
Колер зоркі крывёю повен.
Плача камень, бы ад віны,
Як былога пажар успомніць.

Наша хата –
са смольных плах
І з абрусам зямной гасціны
Там, дзе вішні бялюткі ўзмах
Запрашальна ляціць гасцінцам.

Наша будучыня – лісты,
Што зязюля гадоў стварае,
Хоць мы родам паходзім з тых,
Хто яе не жадзён дарамі.

Наша будучыня як знак
Баразны,
а ў ёй зярняткі,
І над ёю каб пеў і зваў
Голас жаўранка і дзіцяткі.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Дзе бясконца залёг прасцяг,
Стужка сцелецца залатая.
Цемра хоча полымя сцяць –
Зоры грэць яно адлятае...

1987

Змест

## 1

## 2

3

Голуб Ю.
Г62 Брама зімы: Кн. паэзіі / Юрка Голуб. – Мн.: Маст.
Літ., 2004. – 119с.

ISBN 985-02-0692-6.

Вершы паэта Юркі Голуба ўпэўнены ў моцы роднага слова, адкуль і вынікаюць, каб імкнуцца на абсяг людскасці. Гэты зборнік атрымаў аўтарскую метрыку на існасць за дзесяць гадоў таму, але яго сёлетняе з'яўленне сведчыць, што паэтычны радок можа часова затрымацца ў дарозе да чытача, але ні ў якім разе не заняпасці назаўсёды.

"Брама зімы" – не забарончая мяжа, а кропка адліку на дальнейшым шляху паэта з адметным почыркам і ладам.

УДК 821. 161.3.-1
ББК 84 (4Беи)-5

Литаратурна- мастацкае выданне

ГОЛУБ Юрка (Юрый Уладзіміравіч)

БРАМА ЗІМЫ

Кніга паэзіі

Рэдактар Н.І. Семашкевіч
Мастацкае афармленне І. Б. Семілетаў
Мастацкі рэдактар Л.М. Рудакоўская
Тэхнічны рэдактар Т. С. Звярковіч
Стылістычны рэдактар М. Ч. Пермякова

Падпісана да друку 13.05.04. Фармат 70х100 1/32. Папера афсетная. Гарнітура Гармон. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 4,87. Улік. –выд. арк. 3,91
Тыраж 1200 экз. Заказ 1677.

Выдавецкае рэспубліканскае паліграфічнае прадпрыемства "Мастацкая літаратура " Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія № 02330/0056778 ад 17.02. 2004. 220600 Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае ўнітарнае паліграфічнае прадпрыемства "Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня". 225409, Баранавічы, вул, Савецкая, 80.